КУЛЬТПРОП ЦК КП(б)Б
ПРАГРАМНА-МЭТАДЫЧНАЕ БЮРО

# МЭТАДЫЧНЫЯ ДАПАМОЖНІКІ
## ДЛЯ ПАРТАСЬВЕТЫ

№ 1 — СТУДЗЕНЬ 1932 г. — № 1

ВЫДАНЬНЕ ЦЭНТРАЛЬНАГА ДОМУ КАМАСЬВЕТЫ — МЕНСК

## НАР.-ГАСПАДАРЧЫ ПЛЯН [redacted] IV АПОШНЯГА ГОДУ 5 ГОДКІ

### МЭТА ТЭМЫ:

1. Паказаць, што ў выніку посьпехаў сацыялістычнага будаўніцтва мы ў 3-м годзе пяцігодкі завяршылі пабудову фундамэнту сацыялістычнай эканомікі СССР.

2. Што 4 год павінен быць заключным годам „пяцігодкі ў 4 гады“ і тым падрыхтаваць ажыцьцяўленьне 2-га пяцігадовага пляну.

3. Што вялізарныя посьпехі гаспадарчага і культурнага будаўніцтва ў БССР зьяўляюцца вынікам правільнага правядзеньня нацыянальнай політыкі партыі ў барацьбе на два фронты, супроць вялікадзяржаўнага шавінізму і ўхілу да яго, як галоўнай небясьпекі, супроць контррэволюцыйнага нац. дэмократызму і яго агентуры ў партыі—нацыянал-опортунізму, беларускага і інш. шавінізмаў.

4. Што пасьпяховае выкананьне народна-гаспадарчага пляну 1932 г. магчыма толькі пры ажыцьцяўленьні 6 ўмоў тав. Сталіна ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі, што 4-ты год пяцігодкі павінен быць годам барацьбы за якасныя паказальнікі, за аўладаньне тэхнікай.

5. Паказаць, што выкананьне гаспадарчага пляну 1932 г. магчыма толькі на аснове бязьлітаснай барацьбы супроць правага ўхілу, як галоўнай небясьпекі на даным этапе, левых загібаў, супроць працягваньня троцкісцкай контрабанды, супроць гнілога лібэралізму і прымірэнцтва да ўсіх відаў опортунізму.

6. Што выкананьне пяцігодкі ў 4 гады будзе вялізарным крокам па шляху перамогі сусьветнай пролетарскай рэволюцыі.

### ПЛЯН.

1. Завяршэньне фундамэнту сацыялістычнай эканомікі ў 3 годзе пяцігодкі.

2. Задачы 4-га года ў галіне прамысловасьці і транспарту.

а) Мэталь, вугаль, машына-будаўніцтва і транспарт—асноўныя вядучыя зьвеньні народна-гаспадарчага пляну 1932 г.

б) Пасьпяховае выкананьне народна-гасп. пляну 32 году па прамысловасьці і транспарту—залог выкананьня пяцігодкі ў 4 гады.

3. Гаспадарча-арганізацыйнае ўмацаваньне калгасаў, барацьба за ўраджай, вырашэньне праблемы жывёлагадоўлі—на аснове далейшай мэханізацыі сельскай гаспадаркі, будаўніцтва МТС і саўгасаў—галоўныя задачы пляну 1932 г. у галіне соцрэканструкцыі сельскай гаспадаркі.

4. Барацьба за кадры і задачы культурнай рэвалюцыі ў пляне 1932 г.

5. Палепшаньне матарыяльнага становішча рабочае клясы і працоўных СССР ў 4-м годзе пяцігодкі.

6. Умовы, неабходныя для выкананьня пляну 4-га году.

а) Выкананьне 6-ці ўмоў тав. Сталіна;

б) Аўладаньне тэхнікай і арганізацыя новых галін вытворчасьці ў СССР.

в) Выкананьне якасных паказчыкаў і барацьба за якасьць работы.

г) Барацьба на два фронты, у галіне практыцы і тэорыі.

7. Значэньне выкананьня пяцігодкі ў чатыры гады для перамогі сусьветнай пролетарскай рэвалюцыі.

## ЗАУВАГІ

### I

У першым разьдзеле неабходна падрабязна разабраць тыя дасягненьні, якія мы маем на 3-ці год пяцігодкі. Выкананьне некаторымі галінамі прамысловасьці (нафтавая, электро-тэхнічная, трактарна-будаўнічая і агульна машына-будаўнічая, прамысловасьць гор. Ленінграду) пяцігодкі ў 3 і $2\frac{1}{2}$ гады; павялічэньне прамысловай прадукцыі агулам на 20-21 проц. супроць мінулага году па СССР, на 69 проц. па БССР. Паказаць, што ў працягу першых 3-х год пяцігодкі мы маем штогод перавыкананьне наметак пяцігадовага пляну па прамысловай прадукцыі (106, 107, 113 проц.).

У галіне колектывізацыі сельскай гаспадаркі 3-ці год даў перавыкананьне наметак пяцігодкі ў 3 разы. Колектывізавана па СССР 62 проц. усіх бядняцка-серадняцкіх гаспадарак і 79 проц. пасеўных плошчаў; па БССР на 10|XII-31 г. 50,5 проц. сялянскіх гаспадарак. Валавая прадукцыя зернавых і тэхнічных культур па СССР вырасла на $6\frac{1}{2}$ проц., ня гледзячы на засуху ў шэрагу асноўных зернавых раёнах, па БССР валавая прадукцыя сельскай гаспадаркі вырасла на 12,5 проц.

У выніку гэтых дасягненьняў мы мелі і значнае палепшаньне матэрыяльнага становішча рабочых і калгасных мас. Зарплата ў сярэднім па СССР павялічылася на 18 проц. Сярэдні месячны

заробак рабочай сям'і павялічыўся на 64 проц. „Гэты год быў для СССР адначасова годам канчатковага падрыву дыфэрэнцыяцыі на вёсцы, ліквідацыі галечы і карэннага палепшаньня матэрыяльных умоў працоўных мас вёскі, пры каласальным росьце дыфэрэнцыяцыі і згаленьня мільёнаў мас сялян у краінах панаваньня капіталу" (Рэзалюцыя Сэсіі ЦВК СССР).

Увязаць гэты разьдзел з дасягненьнямі данага прадпрыемства за 3-ці год пяцігодкі.

Вялізарны рост вытворчых сіл і палепшаньне матарыяльнага становішча працоўных мас у СССР параўнаць з тым крызісам і жудасным становішчам працоўных, якое існуе ў капіталістычных краінах.

Для гэтага выкарыстаць факты і лічбы з дакладу тав. Молатава і асабліва з дакладу тав. Галадзеда на Сэсіі ЦВК БССР аб становішчы ў Польшчы і Заходняй Беларусі. Паказаць, што нашы дасягненьні зьявіліся вынікам правільнага правядзеньня генэральнай лініі партыі ў барацьбе на два фронты.

Прывесьці слухачоў да вываду, што „дасягнутыя посьпехі ў галіне індустрыі і сельскай гаспадаркі забясьпечваюць выкананьне пяцігодкі ў 4 гады і абумовілі завяршэньне фундамэнту сацыялістычнай эканомікі ў нашай краіне". (Рэзалюцыя ЦВК СССР"), але аб'ектыўна ў нас былі магчымасьці яшчэ больш хуткага росту. „Асноўнай прычынай недастатковага выкарыстаньня гэтых магчымасьці трэба лічыць недахопы ў рабоце гаспадарчых арганізацый, як у прамысловасьці, і ў сельскай гаспадарцы і на транспарце. Недахопы ў арганізацыі працы на прадпрыемствах, недахопы ў арганізацыі зарплаты, неналаджанасьць канкрэтнага кіраўніцтва, адсутнасьць праверкі выкананьня, адсутнасьць патрэбнай ўвагі да гаспадарчага разрахунку" (Рэзалюцыя ЦВК СССР).

## II

Паказаць, што асноўнымі вучасткамі народнай гаспадаркі, на якіх павінна быць канцэнтравана ўвага партыі і ўсей савецкай грамадзкасьці зьяўляюцца ў 1932 г.:—мэталюргія, апал, машына-будаўніцтва (асабліва машына-будаўніцтва для транспарту) транспарт.

Пры усіх вялізарных дасягненьнях ў гэтых галінах гаспадаркі, асабліва ў галіне машына-будаўніцтва, якое за мінулы год аўладала тэхнікай будаўніцтва шэрагу новых машын, якія раней увозіліся з-за граніцы (Блюмінгі, магутныя турба-генэратары і турбіны, ўрубовыя машыны, дызеля для суднаў, буравыя станкі, магутныя радыё-станцыі і г. д.) гэтыя вучасткі ўсе яшчэ зьяўляюцца вузкім месцам у разьвіцьці ўсей народнай гаспадаркі.

Плян 1931 г. прадугледжвае вытворчасьць чыгуну ў 9 млн тон супроць 5 млн—1931 г.; вуголь 90 млн тон; машына-будаўніцтва на 6.800 млн. руб., з іх 940 млн руб. сельска-гаспадарчых машын, 82 тыс. трактароў, 73 тыс. аўтамашын, 1300 паравозаў. 50 тыс вагонаў у 2-х восным вылічэньні). Плян прадугледжвае разгор-

тваньне здабычы вугалю ў шэрагу новых раёнаў (Кузбас, Баровічы, Сярэдняя Азія, Усходняя Сібір, Далёкі Ўсход), а таксама на Урале і ў Падмаскоўным раёне, які павінен у бліжэйшы час стаць асноўнай топліўнай базай для Масквы і Маскоўскай вобласьці. Уводзіцца ў строй 24 новых домны, 63 мартэны, 12 электро-печаў, 7 блюмінгаў, 21 прокатны стан. У БССР асаблівае значэньне мае далейшае разгортаганьне здабываньня торфу, якое павінна дасягнуць 1.964 тыс. тон замест фактычна выкананага ў 1931 г.—584 тыс. тон.

Агульны рост прадукцыі цяжкай прамысловасьці па БССР павінен быць на 43 проц. Нашы посьпехі у галіне разгортваньня цяжкай індустрыі і капітальных укладаньняў у сацыялістычную гаспадарку даюць магчымасьць „побач з вялізарным далейшым размахам у разгортваньні цяжкай індустрыі разьвіваць легкую і харчсмакавую прамысловасьці" (тэзысы ЦК УсеКП). Прадукцыя лёгкай прамысловасьці павінна вырасьці на 29 проц. Намечана вытворчасьць баваўнянай тканіны—3,061 млн. мэтраў, абутку—91½ млн. пар., кансэрваў 1.000 млн. банак, сканчэньне 5-ці і пачатак будаўніцтва 11 новых цукравых заводаў: побач з далейшым будаўніцтвам буйнейшых мясокамбінатаў, якія ўжо будуюцца, намечана пачаць будаўніцтва новых 5-ці сярэдніх і 11 дробных мяса-камбінатаў; пачынае будавацца буйнейшы тэкстыльны камбінат у Сярэдняй Азіі.

Агульнае павялічэньне прадукцыі па ўсёй прамысловасьці па СССР намечана—36 проц, па БССР на 68,6 проц.

Капітальныя работы па чыгуначнаму, воднаму, дарожнаму і паветранаму транспарту намечаны па СССР 3.330 мільенаў руб. Па БССР дарожнае будаўніцтва павялічваецца на 19,4 проц., будзе завезена 2.750 аўтомашын. Грузазварот воднага транспарту павінен даць рост—145,4 проц. па БССР.

Асноўныя ўкладаньні ў транспарт павінны забясьпечыць разьвіцьцё выхадаў з Данбасу і разьвіцьцё лініі Масква-Магнітагорск-Кузьнецк.

На аснове вышэйпаказаных матэрыялаў прывесьці слухачоў да разуменьня таго, што пасьпяховае выкананьне пляну 4-га году будзе азначаць выкананьне, а па шэрагу галін і перавыкананьне наметак пяцігадовага пляну. Так, па капітала-укладаньнях у прамысловасьць пяцігадовы плян па СССР будзе за 4-ры гады перавышаны ў 2 разы; па БССР—па прамысловасьці ВСНГ—на 9,4 проц. Прамысловая прадукцыя ВСНГ БССР павінна перавысіць наметкі пяцігодкі на 12,2 проц. Капіталаукладаньні за 4 гады за ўвесь сацыялістычны сэктар народнай гаспадаркі СССР павінны перавысіць на 16 проц. наметкі пяцігадовага пляну.

## III

Паказаць, што асноўнымі задачамі ў галіне сельскай гаспадаркі на 1932 г. зьяўляюцца:—арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў і забясьпечаньне выкананьня імі абавязкаў перад дзяржавай, узьняцьце ураджайнасьці і вырашэньне пробле-

мы жывёлагадоўлі. Аргінзацыйна-гаспадарчае ўмацаванне калгасаў павінна зьявіцца тым асноўным зьвяном, ухапіўшысь за якое, мы зможам пасьпяхова вырашыць усе задачы па сацыялістычнай рэканстррукцыі сельскай гаспадаркі, забясьпечыць праведзеньне суцэльнай колектывізацыі БССР да канца 1932|33 г.

Рост ураджайнасьці намечаны па СССР—па збожжавых культурах да 8,5 цнт. з га, па ільнавалакне—2,6 цнт., бавоўне—8,7 цнт., цукравых буракоў—да 145 цнт, Па БССР—намечана павялічэньне ўраджайнасьці збожжа на 12 проц. траў і тэхкультур на 15 проц. бульбы—20 проц, удой кароў—і выход таварных падсьвінкаў—20 проц. Паказаць, што павялічэньне ураджайнасьці павінна зьявіцца асноўным сродкам павялічэньня валавой і таварнай прадукцыі ў сельскай гаспадарцы ў 1932 г. У галіне вырашэньня праблемы жывёлагадоўлі, якое (асабліва сьвінагадоўля) для БССР мае асаблівае значэньне, намечана па БССР павялічыць лік коняў на 5 проц, рагатай жывёлы—на 35,7 проц. сьвіньняў—на 39,7 проц. Вялізарную ролю ў справе вырашэньня мясной праблемы адыгрываюць саўгасы. Так у 1932 г. жывёлагадоўчыя трэсты Наркомзему павінны здаць мясной прадукцыі 162,2 тыс. тон., калгасныя і таварныя фэрмы 182 тыс. тон. У галіне жывёлагадоўлі павінна быць надана асаблівая ўвага справе аўладаньня тэхнікай буйнай жывёлагадоўчай гаспадаркі, мэханізацыі яе, падрыхтоўкі і выкарыстаньня кадраў. „Наша задача дабіцца ў асноўным вырашэньня ў 1932 г. праблемы жывёлагадоўлі". (Галадзед).

Адначасова мы будзем мець далейшае пашырэньне пасеўных плошчаў. Так па БССР пасеўплошча пашыраецца на 16,5 проц. (а па саўгасам па 129,3 проц.). Па СССР намёткі пяцігадовага пляну па пасеўных плошчах будуць выкананы на 141 проц., пры чым найбольшае пашырэньне прыпадае на тэхнічныя культуры, (Плян зернавых пасеваў—95 проц, тэхнічных культур—133 проц.).

Усе гэта патрабуе адпаведнага ўзброеньня сельскай гаспадаркі машынамі. Будзе арганізована 1700 новых МТС, і лік МТС будзе даведзены да 3100 (па БССР да 97).

## IV

Паказаць, што 4-ты апошні год пяцігодкі павінен даць вялізарны зрух і ў справе стварэньня сваёй пролетарскай інтэлігенцыі, забясьпечаньня кадрамі прамысловасьці і сельскай гаспадаркі, ажыцьцяўленьня культурнай рэвалюцыі. На падрыхтоўку кадраў павінна быць выдаткавана ў 1932 г. па СССР—2.795 млн. рубл., на масавую асьвету 2.618 млн., на навукова-дасьледчую работу—646 млн. Намечаны выпуск акончыўшых ВНУ ў 56.000 чалавек, тэхнікумы—175 тыс., рабфакі—121 тыс., школы ФЗВ—364 тыс.

Па БССР на падрыхтоўку кадраў будзе выдаткавана ў 1932 г. 42,5 млн. руб. (супроць 23,3—у 1931 г.). Лік навучаючыхся ў школах ФЗВ і аналёгічных школах будзе павялічаны на 73,8 проц. Лік вясковых дамоў культуры будзе павялічаны на 216 проц.

у галіне ўсеагульнага навучаньня, якое ў асноўным вырашана на аснове 4-х годкі, мы павінны паставіць перад сабой задачу ўсеагульнага навучаньня на базе сямігодкі.

Паказаць, што нашы посьпехі ў галіне культурнага будаўніцтва БССР, таксама, як і ў галіне гаспадарчага соцбудаўніцтва, зьяўляюцца вынікам правільнага правядзеньньня нацыянальнай палітыкі партыі пры рашучай барацьбе з вялікадзяржаўным шавінізмам і ўхілам да яго, як галоўнай небясьпекай, контррэвалюцыйным нац. дэмократызмам, нацыянал-апартунізмам і прымірэнцтвам да іх. Паказаць, што барацьба за бальшавіцкую вытрыманасьць у галіне тэорыі супроць розных колераў буржуазных тэорый, правага апартунізму і троцкісцкай контрабанды і барацьба з гнілым лібэралізмам да іх зьяўляецца штодзённай задачай партыі.

„Узмацненьне ідэолёгічнага фронту мае асабліва важнае значэньне. Праўда, тут нам прадстаіць яшчэ вельмі многа работы. Далейшая барацьба за чыстату марксыцка-ленінскай тэорыі павінна весьціся і далей з непаслабленымі тэмпамі. Тут мы павінны на справе і бязьлітасна змагацца з усялякімі ўхіламі і скажэньнямі марксыцка-ленінскай тэорыі і ўсялякімі буржуазна-лібэральнымі адносінамі да гэтых скажэньняў“. (Галадзед). Параўнаць рост культуры ў СССР і БССР са становішчам за граніцай, дзе дзесяткі тысяч інтэлігенцыі знаходзяцца без працы, зачыняюцца школы з-за скарачэньня дзяржаўных выдаткаў на асьвету, звужваецца навукова-дасьледчая работа (акрамя ваенай, зразумела). У Нямеччыне, напрыклад, абавязковае навучаньне, якое існуе там дзясяткі год, фактычна зрываецца з-за таго, што тысячы галодных і распранутых пролетарскіх дзяцей ня могуць наведваць школу.

## V

Паказаць, што 4-ты год пяцігодкі зьявіцца годам далейшага палепшаньня матэрыяльнага становішча рабочае клясы і працоўных мас СССР.

Лік рабочых, занятых у буйнай прамысловасьці СССР павінен узрасьці на 14 проц., што складае 152 проц. наметак 5-ці гадовага пляну. Па БССР лік рабочых прамысловасьці ВСНГ узрасьце на 36 проц.

Лік рабочых і служачых па ўсіх галінах народнай гаспадаркі СССР павялічыцца з 18.700 тыс. чал. да 21.000 тыс. (133 проц. пяцігадовага пляну).

Зарплата ў прамысловасьц: павялічыцца на 11 проц:

Па фонду, асыгнаванаму на зарплату будзе выканана— 171 проц. наметак пяцігадовага пляну.

Гадавы бюджэт сацыяльнага страхаваньня рабочых і служачых узрасьце па СССР з 2.500 млн. р. у 1931 г. да 3.490 млн. р. у 1932 г. (Наметкі пяцігодкі будуць перавышаны ў 2 разы).

павінна палепшыцца і забясьпечаньне рабочае клясы. Фонд тавараў шырокага спажываньня па раздробных цэнах 1931 г. узрасьце на 30 проц. Па БССР раздробны тавараабарот павялічыцца на 42,2 проц., пры чым асноўнае павялічэньне будзе па лініі закрытых рабочых і ваеных разьмеркавацелей (на 194,7 процанта). У галіне забясьпечаньня застаецца задача першачарговага забясьпечаньня ўдарнікаў, ударных строяк, вядучых галін прамысловасьці, максымальнага разгортваньня савецкага гандлю, Наркамснаб і Цэнтрасаюз павінны адчыніць у 1932 г. 10.000 магазынаў па СССР.

Па СССР сума ўкладаньняў у жыльлёвае будаўніцтва будзе ў 2 разы больш, чым у 1931 г. Па БССР асыгнаваньні на жыльлёвае будаўніцтва павялічаны на 45 проц., на камунальныя прадпрыемствы—на 215,6 проц. Намечана пабудаваць па БССР 480 тыс. квадр. мэтраў жылплошчы, г. зн. павялічыць жыльлёвае будаўніцтва супроць 31 г. на 140 проц.

Побач з гэтым значна палепшыцца і культурнае абслугоўваньне працоўных, аб чым ужо гаварылася раней.

Параўнаць матэрыяльнае становішча працоўных СССР са становішчам на Захадзе, дзе беспрацоўе расьце, зарплата зьніжаецца, мільёны бядняцка серадняцкага сялянства руйнуюцца крызісам, дзе 1932 г. абяцае быць годам далейшага паглыбленьня эканамічнага крызісу.

## VI

Паказаць, што ў нас маюцца ўсе аб'ектыўныя ўмовы для выкананьня пляну 4-га заключнага году пяцігодкі. Выкананьне пляну цалкам залежыць ад таго, як мы справімся з забясьпечаньнем 6 умоў, высунутых тав. Сталіным. Барацьба за лепшую арганізацыю працы ў прамысловасьці і ў сельскай гаспадарцы, ліквідацыя ўраўнілаўкі, абязьлічкі, барацьба-за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў, пераход да арганізаванага набору рабочай сілы, правядзеньне гаспадарчага разрахунку, сваячасовае заключэньне і выконваньне дагавароў паміж прадпрыемствамі, праверка выкананьня і ўсямернае палепшаньне работы гаспадарчага апарату, а таксама партыйнага, савецкага і прафэсыянальнага апарату, з тым, каб наладзіць сапраўды канкрэтнае кіраўніцтва—усё гэта зьявіцца залогам выкананьня пляну 1932 г.

Паказаць, што выкананьне пляну 4-га году магчыма толькі ў жорсткай барацьбе з клясавым ворагам, што ўсялякія размовы аб тым, што клясавая барацьба ў СССР ужо замерла зьяўляюцца махровым опортунізмам.

Неабходна рашучая барацьба супроць правага ўхілу, як галоўнай небясьпекі на даным этапе і левых загібаў, супроць працягваньня троцкісцкай контрабанды, як у галіне тэорыі, так і ў галіне практыкі, супроць гнілога лібэралізму і прымірэнцтва да іх.

На сучасным этапе опортунізм вельмі часта прымае форму

„алілуйшчыны“, калі апартуністы, галасуючы за лінію партыі, на справе нічога ня робяць для правядзеньня яе ў жыцьцё, а наадварот, прымаюць усе захады для зрыву гэтай лініі.

Супраціўленьне рэалізацыі 6-ці ўмоў тав. Сталіна зьяўляецца ў сучаснай абстаноўцы аднэй з худшых праяў апортунізму.

У галіне набору рабочай сілы апортуністы спадзяюцца на самацёк, супраціўляюцца арганізаванаму набору рабочай сілы шляхам дагавароў з калгасамі, а ў калгасах тармозяць арганізацыю адыходніцтва.

Апортуністы, прыкрываючыся „левай“ фразай, адстайваюць дробна-буржуазную ўраўнілаўку ў зарплаце. Апортуністы зьяўляюцца праваднікамі яўна буржуазных, кулацкіх тэндэнцый ў галіне саўгаснага і калгаснага будаўніцтва, супроцьстаўляючы мясцовыя інтарэсы сваёй гаспадаркі інтарэсам пролетарскай дзяржавы.

Адначасова ў сваей „лявацкай“ форме, апортунізм замяняе арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў, галоўную задачу на даным этапе, пагоняй за раздутымі працантамі колектывізацыі.

У галіне разгортваньня савецкага гандлю апортунізм—з аднаго боку імкнецца супроцьставіць савецкі гандаль пляну савецкай дзяржавы, разглядаючы яго, як „вольны гандаль“, працягваючы нэпманоўскія буржуазныя тэндэнцыі, з другога боку пад шыльдай „левай“ фразы імкнецца сарваць савецкі гандаль пераходам да прамога размеркаваньня, што прыводзіць да замаражваньня таваразвароту.

Апортуністы імкнуцца супроцьставіць гаспадарчы разрахунак, які зьяўляецца сродкам правядзеньня народна-гаспадарчага пляну, гэтаму пляну. Прыкладам такой праявы буржуазных тэндэнцый зьяўляюцца „тавараабменныя“ апэрацыі, якія практыкаваліся некаторымі арганізацыямі, прыводзілі да фактычнага абману партыі і дзяржавы, былі накіраваны на зрыў плянаваньня і ўстойлівасьці савецкага рубля.

У галіне падрыхтоўкі кадраў апортуністы—з аднаго боку тармозяць справу разгортваньня гэтай падрыхтоўкі, ня ўмеюць і ня хочуць на 100 проц. выкарыстаць новыя кадры, з другога боку, маскуючыся „левай фразай“, недаацэньваюць задачу выкарыстаньня старых спэцыялістаў.

Апортуністы ня могуць стаць на чале далейшага разгортваньня сацспаборніцтва, не разумеюць значэньня выхаваньня новых пластоў рабочае клясы, як аднэй з форм клясавай барацьбы на даным этапе.

Апортуністы,—з аднаго боку, падтрымліваюць меншавіцка-троцкісцкія контррэвалюцыйныя гутаркі аб несацыялістычным характары нашых калгасаў, з другога боку—ударающца ў ідэалізацыю нашых калгасаў, забываюць аб элемэнтах клясавай барацьбы ў калгасах і аб задачах сацыялістычнага перавыхаваньня калгасьнікаў.

Апортуністы не даюць руйнуючага адпору элемэнтам бюрократызму ў нашым апараце, замест канкрэтнага кіраўніцтва і штодзённай праверкі выкананьня абмяжоўваецца дэкрэтна-дырэктыўным, габінэтным кіраваньнем.

Паказаць, што пасьпяховае выкананьне народна-гаспадарчага пляну 1932 г. магчыма на аснове барацьбы з праявамі апортунізму ня толькі ў галіне практыкі, але і ў галіне тэорыі. Неабходна бязьлітасная барацьба з правымі і левымі памылкамі, барацьба супроць троцкісцкай контрабанды, у прыватнасьці ў галіне гісторыі партыі, дзе троцкісцкія контрабандысты шляхам фальсіфікацыі гісторыі УсеКП і Комінтэрну, імкнуцца падарваць аўтарытэт бальшавіцкай партыі сярод працоўных мас, неабходна барацьба супроць усіх відаў скажэньня нацыянальнай палітыкі партыі.

Паказаць, што барацьба з троцкісцкай контрабандай і гнілым лібэралізмам да яе ў галіне гісторыі партыі (і наогул у галіне тэорыі), барацьба за марксыцка-ленінскую чыстату тэорыі мае вялізарнае значэньне для справы бальшавіцкага выхаваньня новых кадраў, партыйнага маладняка, камсамолу, шырокіх пластоў пролетарыяту і працоўных.

Паказаць, што асаблівае значэньне пры выкананьні пляну 1932 г. набываюць якасныя паказчыкі, па якіх мы ўвесь час адстаем.

Вытворчасьць працы ў прамысловасьці павінна ўзрасьці па СССР на 22 проц. (супроць фактычных 6,6 проц. 1931 г.); па БССР па прамысловасьці ВСНГ—на 26,9 проц., Наркамснабу—26 проц.

Зьніжэньне сабекошту па СССР—7 проц. Па БССР—8,1 проц. па прамысловасьці ВСНГ і 7 проц. па прамысловасьці Наркомснабу. 1932 г. павінен быць годам далейшай барацьбы за аўладаньне тэхнікай шырокімі масамі працоўных, за арганізацыю ў СССР новых галін вытворчасьці, за далейшае ўзмацненьне нашай эканамічнай незалежнасьці ад капіталістычнага Захаду. „Ёсьць у нас гора-гаспадарнікі, якія не вядуць барацьбы за ўзмацненьне незалежнасьці Савецкага Саюзу ў галіне тэхнікі, якія ігнарыруюць пастаноўку новых вытворстваў. Гэта адзін з горшых відаў апортунізму. Мы павінны ў гэтым годзе ў масавым маштабе арганізаваць новыя вытворствы і ўсямерна ўзмацняць незалежнасьць нашага Саюзу... Партыйнасьць кожнага камуніста, кожнай арганізацыі, яе кіраўнікоў будзе вызначацца наколькі яны вядуць няпрымірымую барацьбу за якасьць работы“ (Правда ад 26|XII 31 г. перадавая).

## VII.

У апошнім разьдзеле гутаркі неабходна высьвятліць тое значэньне, якое будзе мець заканчэньне пяцігодкі ў 4 гады для справы сусьветнай пролетарскай рэвалюцыі.

Перавагі сацыялістычнай сыстэмы над капіталістычнай зусім яскравы на фоне нашых посьпехаў і гаспадарчага развалу на Захадзе.

Вынікі 3-га году пяцігодкі, а тым больш выкананьне пяцігодкі ў 4 гады, робяцца мацнейшым штуршком для разьвіцьця рэвалюцыйнай сітуацыі на Захадзе. Мы павінны рухацца ўперад так, каб рабочая кляса ўсяго сьвету, гледзячы на нас, магла сказаць: Вось ён, мой перадавы атрад, вось яна мая ўдарная брыгада, вось яна, мая рабочая ўлада, вось яна, мая айчына,— яны робяць сваю справу, нашу справу, добра,—падтрымаем іх супроць капіталістых і раздуем справу сусьветнай рэвалюцыі". (Сталін).

Паказаць, што разьвіцьцё сусьветнага крызісу ўсё больш абвастрае небясьпеку імпэрыялістычных войн, а таксама войн супроць СССР, высьвятліць сутнасьць падзей у Манчжурыі з пункту погляду падрыхтоўкі вайны супроць СССР. Паказаць, што адзінай політыкай СССР застаецца політыка міру, што на небясьпеку інтэрвенцыі неабходна адказаць яшчэ большым узмацненьнем абароназдольнасьці нашай краіны, што выкананьне пяцігодкі ў 4 гады ў нябачанай ступені ўзмацніць абароназдольнасьць СССР.

Паказаць значэньне барацьбы з троцкісцкай контрабандай, якая імкнецца падарваць аўтарытэт УсеКП(б), як самай рэвалюцыйнай партыі пролетарыята ў сьвеце, і якая адмаўляе інтэрнацыянальнае значэньне Кастрычнікавай рэвалюцыі,—для справы бальшавізацыі кампартый Захаду і набліжэньня перамогі сусьветнай пралетарскай рэвалюцыі.

## ЛІТАРАТУРА.

**Для слухачоў:**

1. Дадаткі.
2. Напярэдадні апошняга году 5-ці годкі „Правда" 26/XII-31 г.

**Для кіраўнікоў:**

Даклады Молатава і Куйбышава на Сэсіі ЦВК СССР і рэзалюцыя па дакладу.

Даклад т. Галадзеда на Сэсіі ЦВК БССР.

Прамова Сталіна аб 6-ці ўмовах.

Ліст Сталіна ў рэдакцыю „Пролетарская Рэвалюцыя".

Бальшавік № 19-20 і 21 за 1931 г. Перадавыя.

Пастанова Бюро ЦК КП(б)Б „Зьвязда" 26/XII-1931 г.

Склаў **Орлік**

## Вынікі 1931 году.

Вынікі 1931 г. ў адносінах капіталістычных краін і Савецкага Саюзу надзвычайна навучальныя. Усе краіны капіталізму былі ахоплены крызісам нябывалай сілы, пры чым крызісам, які ўсё паглыбляецца. Усе гэтыя краіны каціліся далей з гары, скарачаючы сваю вытворчасьць, згортваючы будаўніцтва, выкідваючы ўсё новыя мільёны галодных на вуліцу.

Побач з гэтым у Савецкім Саюзе адбіваўся гаспадарчы ўздым, рост прадукцыйных сіл яшчэ нячуваных у сьвеце маштабаў. Прамысловасьць за гэты пэрыёд зрабіла новы буйнейшы крок наперад. Будаўніцтва разгарнулася ня толькі ў старых, але і ў новых галінах гаспадаркі. Становішча мас, як ў гарадзе, так і ў вёсцы значна палепшылася. Процілегласьць шляхоў разьвіцьця краін капіталізму і краіны, дзе будуецца сацыялізм раскрылася з яшчэ большай яснасьцю і вострасьцю. Шлях капіталізму,— шлях крызісу, шлях гаспадарчага заняпаду і выключных труднасьцяй для народных мас. Шлях сацыялізму—шлях росту. шлях гаспадарчага ўздыму і карэнога палепшаньня становішча шырокіх мас гораду і вёскі. У капіталістычных краінах—вялізарныя мільёныя арміі беспрацоўных. Гіганцкае павялічэньне ліку галодных і галечы ў гарадох і ў вёсках. У СССР—ліквідацыя беспрацоўя і канчатковы падрыў дыфэрэнцыяцыі і галечы сярод працоўных мас вёскі.

Прывяду ацэнку вынікаў мінулага году, даную ў самыя апошнія дні аднэй буржуазнай навукова-эканамічнай ўстановай ў Бэрліне. У апошнім аглядзе Інстытуту каньюктурных дасьледваньняў за III-ці квартал 1931 г. дана такая-жа агульная характарыстыка сусьветнага эканамічнага разьвіцьця за 1931 г., асабліва ў сувязі з абвостраным у ходзе эканамічнага крызісу валютным і крыдытным крызісам. У гэтым аглядзе гаворыцца наступнае: „39 краін, якія ахапляюць звыш паловы сусьветнага гандлю— 54 проц., ахоплены валютным крызісам, або непасрэдна стаяць пад пагрозай такавога. Пад уплывам гэтага крызіснага абвастрэньня у крэдытнай сфэры сусьветны коньюктурны ўпадак у у апошнія месяц зноў абвастрыўся. Прамысловая прадукцыя ва ўсіх краінах, за выключэньнем СССР, далей падала. Індэкс сусьветнай прамысловай прадукцыі, (1928—100) зьнізіўся з 83,3 у чэрвені, на 79,4 у кастрычнікі бяг. году. . . . .

Прывяду яшчэ узятыя з друку асобныя прыклады таго, у якіх матэрыяльных і бытавых умовах жывуць цяпер германскія рабочыя. Вось пара фактаў, узятых з друку апошніх дзён. Вось, напрыклад высока-кваліфікаваны дрэваапрацоўшчык 41 г. Ён жанат, мае 3-х дзяцей ва ўзросьце 5,9 і 11 год. Летам мінулага году ён зарабляў у сярэднім каля 35 руб. у тыдзень. З тых часоў яго зарплата зьніжана больш чым нам на 20 проц., а да таго-ж ён працуе толькі 24 гадзіны ў тыдзень, заработак не пе-

равышае цяпер 13-14 руб. За вылікам кватэрнай платы ў распараджэньні сям'і з 5-ці чалавек застаецца 6—7 рубл. у тыдзень на ежу, асьвятленьне, ацяпленьне, вопратку і ўсе інш. расходы. Рэзультат ясны, сям'я асуджана на голад і холад.

Прывяду яшчэ недаўнае паведамленьне наконт становішча ў аднэй з буйнейшых краін Паўднёвай Амэрыкі, у Бразіліі, насельніцтва якой дасягае 42 млн. чалавек „30 млн. чалавечых істот павольна паміраюць у Бразіліі ад голаду, сіфілісу і малярыі зарплата цэлай сям'і рабочага на плянтацыях кавы дайшла да 8 рубл. у месяц. На цукровых заводах, а таксама ў тэкстыльнай і абутковай прамысловасьці зарплата ў Бразіліі дасягае ад 24 да 48 кап. у дзень (Молатаў—Прамова на Сэсі ЦВК СССР).

Эканамічнае становішча Польшчы зьяўляецца адным з найбольш цяжкіх, дзякуючы таму, што Польшча ў эканамічных, фінансавых і палітычных адносінах амаль цалком знаходзіцца ў залежнасьці ад іншых капіталістычных дзяржаў. А паколькі іншыя капіталістычныя дзяржавы коцяцца па шляху далейшага эканамічнага крызісу, пастолькі гэты крызіс цягне за сабой і гаспадарку Польшчы, да і ня можа не цягнуць.

Не прыводзячы агульных паказальнікаў эканамічнага становішча Польшчы, я прывяду толькі некаторыя факты. Пры чым гэтыя факты ўзяты выключна з польскіх газэт і афіцыяльнай літаратуры, Напрыклад, колькасьць беспрацоўных перавашае 1.100 тыс. чалавек. 33 проц. усіх абсьледаваных сялянскіх гаспадарак атрымліваюць прыватную пазыку па 48 проц. годавых, а ў Заходняй Украіне, процант які бярэцца за прыватную пазыку з селяніна, дасягае 287 проц. у год. . . . Цікава прывесьці некаторыя факты аб эканомічным становішчы Заходняй Беларусі, або як гэта у Польшчы называецца, аб Усходніх крэсах . . . . Толькі на працягу 5 дзён лістапада у гор. Вільні закрыліся 7 гандлёвых і прамысловых прадпрыемстваў („Дзеньнік Віленскі"— за 6/XI). Тая-ж газэта ў нумары за 10/XI паведамляе аб значным зьніжэньні спажываньня мукі насельніцтвам, якое дасягае толькі 20 проц. патрэбнасьці . . . „Дзеньнік Віленскі" за 27 кастрычніка піша аб становішчы вёскі наступнае: „Вынікі досьледаў навуковага Інстытуту у Пулавах па пытаньні аб прыбыткавасьці сялянскай сям'і гавораць: дзённы даход аднаго члена сялянскай сям'і у 1926/27 г. раўняўся два злотых 76 грошай, у 1927/28 г. раўняўся—3 залотых 15 грош., 28/29 г.—1 зл. 57 грош., у 29/30 г.— 12 грош. (злоты-раўняецца 22 кап.) (Галадзед—Прамова на Сэсіі ЦВК БССР).

## Пяцігодка за 4 гады у галіне прамысловасьці.

Ужо ў 1931 г. па радзе галін у прамысловасьці пяцігодка аказалася выкананай. Да ліку буйнейшых галін прамысловасьці, выканаўшых пяцігодку за 2 с пал.—3 гады адносяцца нафтавая, электра-тэхнічная, трактара-будаўніцтва і агульная машына-бу-

даўніцтва. Цяпер мы маем магчымасьць падвесьці вынікі выкананьня заданьня пяцігодкі за першыя 3 гады. Калі ўзяць адпаведныя заданьні па прамысловай прадукцыі, дык аказваецца, (паводле няпоўных даных), што у першы год пяцігодкі (1929 г.), заданьні былі выкананы ў разьмеры 106 проц.; у 2-гі год пяцігодкі—30 г.—107 проц.; ў 3-ці год пяцігодкі—31 г.—113 проц. і гэта, ня гледзячы на тое, што па радзе галін вытворчая праграма ў гэтым годзе недавыканана ў значных разьмерах. Такім чынам, нават з гэтых няпоўных даных відаць, што за кожны з першых 3-х год пяцігодкі заданьні па прамысловай прадукцыі ня толькі выконваліся, але і перавыконваліся. Пры гэтым перавыкананьні заданьняў пяцігодкі з году ў год нарастала (6,7, 12 пр.) выкананьне. Посьпехі выкананьня пяцігодкі за першыя 3 гады зрабілі магчымай практычную пастаноўку задачы—выкананьне пяцігодкі за чатыры гады і, значыць сканчэньне пяцігадовага пляну на год раней прынятага V Зьездам Саветаў тэрміну. Для гэтага апошняга (5-га году) пяцігодкі прамысловая прадукцыя была прадугледжана ў разьмеры 30.455 млн. руб. Вядома, далей што ў 1931 г. прамысловая прадукцыя (паводле указаных ужо далёка няпоўных даных), складзе 22.159 млн. рубл., г. зн. дасягне 73 проц. ад узроўню 5-га году пяцігодкі па прамысловай прадукцыі. Значыць, нават пры гэтым няпоўным уліку ўзростаючай прампрадукцыі (якая, не уключае, напрыклад, раду галін шпарка ўзрастаючай харчовай індустрыі), для забясьпечаньня выкананьня пяцігодкі ў 32 г. неабходна было забясьпечыць у гэтым годзе прырост прадукцыі супроць мінулага году на 8 млрд. 296 млн. руб., г. зн. дабіцца па прамысловай прадукцыі прыросту 34,7 проц. Між тым, запраэктаваныя у народна-гаспадарчым пляне 1932 г. заданьні па прамысловай прадукцыі павінны даць прырост у 8.503 млн. руб., г. зн. прырост на 36 проц. супроць мінулага году. Гэта разам з тым дае перавышэньне даваеннага ўзроўню прамысловасьці амаль у 4 разы. Па лёгкай прамысловасьці заданьні 1932 г. азначаюць некаторае недавыкананьне вытворчай праграмы 5 году пяцігодкі, але за тое па цяжкай прамысловасьці гэтыя заданьні азначаюць значнае перавыкананьне апошняга году пяцігодкі, (Молатаў)

Па прамысловасьці мы бралі такую ўстаноўку, каб яшчэ больш павялічыць вядучую ролю прамысловасьці БССР ў адносінах да ўсей народнай гаспадаркі і пашырыць пралетарскую базу БССР, а тым самым і ўзмацніць кіруючую ролю пралетарыяту ў сацыялістычным будаўніцтве. Таму мы і запраэктавалі прырост валавой прадукцыі прамысловасьці на 68,8 проц. Мы вавінны выпрацаваць прамысловай прадукцыі на суму 1.422.500 тыс. рубл., у тым ліку прырост валавой прадукцыі па Саюзнай прамысловасьці ў БССР вызначаецца на 54,6 проц. з давядзеньнем аб'ему яе да 163.380 тыс. (Галадзед)

Калі-ж узяць усю суму капітальных укладаньняў за першыя 3 гады, а іменна 16 млрд. рубл. і дадаць да яе усю суму капі-

тальных работ 1932 г., а іменна 10,7 млрд. рубл., дык злучнасьць заданьняў за 4 гады дасягае 26,7 млрд. рубл. Гэта значыць што па капіталаукладаньнях пяцігодка выконваецца за 4 гады з падваеньнем. У гэтым зарука нашай канчатковай перамогі, зарука вялікай будучыні сацыялізму. (Мблатаў)

Капіталаўкладаньні у прамысловасьць ВСНГ намі праэктуюцца ў аб'еме 70,5 млн. рубл., у тым ліку па жыльлёвым будаўніцтве і сацыяльна-бытавых запатрабаваньнях—11.116 тыс. рубл., а па прамысловасьці Наркамснабу капіталаўкладаньняў вызначаецца ў аб'ёме 16.500 тыс. рубл. У адпаведнасьці з гэтым будзе пашырана і колькасьць рабочых. Сярэдняя сутачная колькасьць рабочых на прадпрыемствах ВСНГ запраэктавана на 1932 г. у ліку 68.000 чал., што дае прырост супроць 1931 г. на 36 проц. (Галадзед)

Па ўсім аграмаджаным сэктары народнае гаспадаркі капітальныя ўкладаньні на ўсю пяцігодку прадугледжваліся ў пяцігадовым пляне у разьмеры 47 млрд. рубл. У сувязі з плянам 1932 г. па капітальных укладаньнях народнай гаспадаркі ў цэлым сума укладаньняў за 4 гады будзе дасягаць звыш 54 млрд. руб. Такім чынам па разьмерах капітальных укладаньняў у народную гаспадарку мы павінны перавыканаць пяцігодку на 16 проц. (Молатаў)

Пры ажыцьцяўленьні запраэктаваных кантрольных лічбаў па прамысловасьці БССР на 1932 г. мы зможам да канца году перавыканаць увесь аб'ем пяцігодкі па прамысловасьці ВСНГ на 12,2 проц., у тым ліку па будматэрыялах на 2,4 проц., па торфе на 88,2 проц. па мэталі на 30,9 проц. Па валавой прадукцыі саюзнай прамысловасьці ўвесь аб'ем пяцігодкі будзе перавыканан на 5,4 проц. і па капітальным укладаньні ў прамысловасьць ВСНГ на 9,4 проц.

Да капітальнага будаўніцтва ў 1931 г. трэба падыходзіць з асаблівай ўвагай, бо яно забясьпечвае працэс пашыранага аднаўленьня (воспроизводства) на базе аграмаджанай народнай гаспадаркі.

Увесь аб'ем капітальных укладаньняў у будаўніцтва намі запраэктаваны ў суме 524,4 млн. рубл. (бяз ваенведу і НК Шляхаў) з якіх чыстае будаўніцтва праэктуецца 359 млн. рубл.

Калі параўняць праграму чыстага будаўніцтва з плянам 31 г. то убачым, што нашы намячэньні на 1932 г. павялічваюць аб'ём капітальнага будаўніцтва амаль у 2 разы. . . .

Пры складаньні нашых кантрольных лічбаў, мы кіраваліся яшчэ і тым, што для ўсяго Саюзу ССР асноўнымі ўстаноўкамі зьяўляецца: канцэнтрацыя галоўных сіл, увагі і сродкаў на важнейшых вядучых галінах індустрыі і ўсёй народнай гаспадаркі.

Для Саюзу гэтымі ўстаноўкамі зьяўляецца наступнае: мэталь, вугаль, транспарт і айчыная машынабудоўля. Гэта азначае што наша партыя і савецкі ўрад зусім правільна канцэнтруюць сваю ўвагу на гэтых вузлавых пытаньнях, якія дапамагаюць далейша-

му і больш хутчэйшаму вызваленьню Саюзу ССР ад эканамічнай залежнасьці ад капіталістычных краін. Гэта галоўная наша задача.

Таму мы павінны ўсямерна паскараць разгортваньне тых галін вытворчасьці, якія вырашаюць гэтую галоўную задачу. Зусім зразумела, што і ўсе віды вытворчасьці Савецкага Саюзу павінны пашырыцца хуткімі тэмпамі, але галоўную сілу мы канцэнтруем на гэтых вузлавых пытаньнях, якія адначасова забясьпечваюць далейшае разьвіцьце ўсёй народнай гаспадаркі.

Зразумела, што ў сувязі з пашырэньнем сацыялістычнай вытворчасьці, з ростам новых гігантаў прамысловасьці ў нас значна павялічылася патрэбнасьць у апале, і тыя разьмеры здабычы вугалю, якія ў нас былі раней, ня могуць задаволіць запатрабаваньняў народнай гаспадаркі ў апале.

Тое-ж самае і па мэталі. Бурны рост усіх відаў вытворчасьці павялічыў у вялізарнай ступені патрэбнасьць у мэталі.

Мы павінны паставіць задачу на 1932 г. ня меньш як ў 2 разы павялічыць здабычу мэталю.

Аб значэньні сацыялістычнай рэканструкцыі транспарту таксама ўсім вядома. Транспарт зьяўляецца асноўнай артэрыяй, па якой перакідаюцца усе матэрыяльныя рэсурсы Савецкага Саюзу на тыя вучасткі сацыялістычнага фронту, дзе нам найбольш патрэбны гэтыя матэрыяльныя рэсурсы. І калі наш транспарт не справіцца з гэтай задачай, ён можа тармазіць ажыцьцяўленьне павышаных тэмпаў разьвіцьця сацыялістычнага будаўніцтва.

У гэтым выпадку можа атрымацца, што у адным месцы будзе лішак матарыяльных сродкаў, а ў другім месцы іх ня хопіць.

Таму мы павінны аддаць максымум увагі наладжваньню работы транспарту. У прыватнасьці ўжо патрэбна ўсімі сіламі ўберагчы чыгункі ад сьнежных завей, каб не паўтарыць леташняй гісторыі.

Вось гэтыя паказаныя ўстаноўкі і зьяўляюцца галоўнымі для усіх арганізацый, якія працуюць над выкананьнем гаспадарчых плянаў. Яны таксама цалкам і поўнасьцю адпавядаюць інтарэсам усіх частак Саюзу, у тым ліку і інтарэсам усіх нацыянальных рэспублік і абласьцей.

Выходзячы з вышэйпаказанных ўстановак намі і складзен праэкт народна-гаспадарчага пляну на 1932 г. (Галадзед)

Выплаўка чыгуна ў нашым Саюзе перавышае даваенную на 20 проц. Але гэта а ні ў якай ступені ня можа нас задаволіць. Капіталістычныя краіны гінуць, а мы расквітаючая краіна сацыялізму. Нам трэба больш мэталю. Адставаньне мэталюргіі ў бягучым годзе, якое, як вядома, у большай ступені было выклікана, асабліва ў пачатку года, вельмі кепскай работай транспарту, далей немагчыма. Старыя мэтады работы, няўменьне гаспадарчых і партыйных арганізацый-мэталюргічных і зьвязаных з мэталюргіяй заводаў і шахт работаць і кіраваць, як трэба, па новаму, вельмі моцна ўдарылі па гэтаму вучастку народнай гас-

падаркі. Падцягваньне мэталюргіі, бальшавіцкая барацьба за 9 млн. тон чыгуна адна з цэнтральных палітычных задач 1932 г.

Кантрольныя лічбы на 1932 г. намячаюць новы грандыёзны разварот вытворчых сіл у нашай краіне. Тав. Молатаў і т. Куйбышаў у сваіх дакладах на Сэсіі ЦВК Саюзу вельмі падрабязна растлумачылі гэты плян вялікіх работ, якія завяршаюць пяцігодку ў чатыры гады. Выработка энэргіі на электрастанцыях будзе даведзена ў 1932 г. да 17 млрд. кілв., замест 10,6 у бягучым годзе, рост у параўнаньні з 1931 г. на 60,4 проц. здабыча вугалю павялічваецца да 90 млн. тон замест 58,6 у бягучым годзе рост прыкладна на 55 проц. 82 тыс. трактароў і 73 тыс. аўтамабіляў дасьць 1932 г. замест 41,6 тыс. і 23,4 тыс. адпаведна з 1931 г. і г. д. (Передавая „Правда“ ад 26/XII-31 г.)

Машына-будаўніцтва ў СССР за першыя 3 гады пяцігодкі зрабіла вялікія посьпехі. Ні адна галіна прамысловасьці не пасунулася наперад так далёка, як машынабудаўніцтва. Даволі ўказаць на такія галіны, як трактарабудаўніцтва, магутныя трубагенератары і турбіны, блюмінгі, урубавыя машыны, судновыя дызелі, магутныя радыё-станцыі, сьвідравальныя варштаты і г. д., каб падкрэсьліць нашы дасягненьні ў гэтай галіне.

Гэтыя посьпехі адлюстроўваюць важнейшыя дасягненьні рабочае клясы СССР у аўладаньні тэхнікай. У сувязі з гэтым, асабліва паказальны прыклад з трактарнымі заводамі ў Сталінградзе і Харкаве. Як вядома, Сталінградзкі трактарны завод у першыя месяцы з цяжкасьцю наладжваў сваю справу. Патрабавалася ня раз умяшаньне ВСНГ. Сталінградзкаму заводу аказвала дапамога ўся партыя. Справа, нарэшце, была пастаўлена на ногі і ў апошнія некалькі месяцаў Сталінградзкі завод добра наладзіў выпуск звыш 100—110 трактароў ў дзень.

Вопыт Сталінградзкага заводу ў вялікай меры быў выкарыстан Харкаўскім трактаразаводам. Апошні быў ня толькі пабудован за вельмі кароткі тэрмін, за 15 месяцаў, але і даў прыклад сапраўдны пасьпяховага аўладаньня тэхнікай трактарабудаўніцтва Толькі на 6-ты месяц Сталінградзкі завод даў 356 трактароў. Ужо на другі месяц Харкаўскі завод даў 386 трактароў. Гэта даказвае, што урокі Сталінграду не прайшлі для нас дарма, што аўладаньне тэхнікай трактарабудаўніцтва ідзе з посьпехам.

Барацьба за аўладаньне тэхнікай мае вялізарнае значэньне для выкананьня ўсяго 5-ці гадовага пляну. Ад сапраўдных посьпехаў у гэтай справе ва многім залежыць справа сацыялістычнага будаўніцтва. (Молатаў)

Падкрэсьліваю, што мы ў 1931 г. зрабілі ня ўсе, што можна было зрабіць па разьвіцьці прамысловасьці будаўнічых матэрыялаў. Мы не мабілізавалі ўсіх сродкаў, якія ў нас ёсьць, на выкананьне будаўнічай праграмы. Нават такіх будаматэрыялаў, як цэгла, мы мелі недахват. Больш таго, мы не арганізавалі, як належыць, выраб вапны. Як ня сорамна, але нам прыходзілася

увозіць у Беларусь вапну з Крыму, у той час, калі мы можам гэту галіну разгарнуць у шырокіх маштабах у кожным раёне.

Таму задачай 1932 г. зьяўляецца максымальнае разгортваньне на падставе мабілізацыі мясцоаых рэсурсаў вырабу мясцовых будаўнічых матэрыялаў. Для таго, каб ажыцьцявіць праграму будаўніцтва ў 1931 г., неабходна, па першае, давядзеньне будаўнічых матэрыялаў да кожнай паасобнай будоўлі, па другое, ліквідаваць абязьлічку ў адносінах фінансаваньня і разьмеркаваньня будаўнічых матэрыялаў, па трэцяе, зьнішчыць асноўныя недахопы будаўніцтва, якія мелі месца ў 1931 г. Трэба пераходзіць да больш лёгкага тыпу будаўніцтва, на стандартнае будаўніцтва, і на шырокае ўкараненьне вырабу новых больш лёгкіх будаўнічых матэрыялаў.

Цяпер аб праблемы апалу. Паводле арыентовачных падлікаў, патрэба ў апале для БССР на 1932 г. складае 2.880 тыс. тон. Пашырэньня завозу апалу з-за межаў БССР ня будзе (Данецкі вугаль). Мы павінны аддаць галоўную ўвагу мясцоваму апалу і як можна больш скарыстаць для гэтай мэты торф.

Мы праектуем на 1932 г. выраб торфу ў аб'ёме 1964 тыс. тон, у тым ліку па Белторфу—1286 тыс. тон. Праграма вельмі вялікая, як бачыце, але мы павінны яе выканаць. Пры чым, выканаць лепш чым у бягучым годзе.

Сёлета мы здабылі 584 тыс. тон торфу. Праграма-ж наша складала 900 тыс. тон. Мы недавыканалі плян. Але гэта ня ўсё. Мы яшчэ дрэнна здабываем торф, а ва многіх мясцох праспалі торфяны сэзон. Не змаглі нават добра высушыць здабыты торф. Таму ўжо цяпер адчуваем вялікія труднасьці ў снабжэньні нашай гаспадаркі апалам.

Нават такое прадпрыемства, як Асінбуд, яно не забясьпечыла сябе неабходнай колькасьцю торфу. Асінторф праваліў праграму здабычы. Вось прычыны таго, што наша асноўная энэргетычная ўстаноўка першая ГРЭС мела перабоі ў сваей рабоце.

У галіне электрыфікацыі намячаем вялікі аб'ём работы. Капіталаўкладаньні ў электробудаўніцтва на 1932 г. запраэктаваны ў суме 29 млн. рубл. Выпрацоўку электроэнэргіі мы павінны павялічыць да 247 млн. квт. гадз. з 146 млн., якія мы выпрацавалі ў 1931 г. (Галадзед)

## Задачы 4-го апошняга году пяцігодкі ў галіне сельскай гаспадаркі.

Як выконваецца лёзунг—„пяцігодка за чатыры гады“ па лініі сельскай гаспадаркі. Вядома, што ў адносінах калектывізацыі сельскай гаспадаркі мы ўжо даўно перайшлі праз заданьне апошняга году пяцігодкі. Паводле пяцігадовага пляну на пяць год належала колектывізаваць 20 проц. сялянскіх гаспадарак, мы ўжо да канца 3-га году пяцігодкі маем звыш 60 проц. колектывізаваных гаспадарак. Такім чынам, заданьне ўсей пяцігодкі ўжо

на 3 годзе па выкананьню перавышана больш чым у тры разы, а ў рашаючых збожжавых раёнах колектывізацыя ў асноўным ўжо скончана. Няма ніякіх сумненьняў ў тым, што 1932 г. будзе годам завяршэньня ў асноўным колектывізацыі па СССР ў цэлым.

У адпаведнасьці з гэтым Цэнтральны Камітэт нашай партыі указаў на неабходнасьць канцэнтраваньня ўвагі на арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні колгасаў, на задачах арганізацыі працы ў арцелях і камунах. Нельга забываць таго, што выключна хуткі рост колектывізацыі разам з тым адзначае, што мільёны новых колгасьнікаў ва многіх адносінах яшчэ не змаглі зжыць прывычак і поглядаў дробных уласьнікаў. Таму сацыялістычна выхаваўчая работа ў колгасных масах і раней за ўсё забясьпечаньне першачарговага выкананьня з боку калгасаў абавязацельстваў перад дзяржавай, асабліва па здачы таварнае прадукцыі, зьяўляецца цэнтральнай задачай бальшавікоў у вёсцы.

Па лініі будаўніцтва колгасаў мы таксама перавыканалі заданьне усёй пяцігодкі. Сетка збожжавых і жывёлагадоўчых саўгасаў, а таксама саўгасаў па радзе тэхнічных культур разгарнулася з выключнай хуткасьцю. Пры гэтым саўгасы адыгралі вялізарную ролю ва ўсёй справе колектывізацыі ў нашай краіне як першыя арганізатары буйнай сацыялістычнай сельскай гаспадаркі. Тым з большай настойлівасьцю неабходна ўзяцца за ліквідацыю буйных недахопаў, з асаблівай яснасьцю выкрытых у апошні час па саўгасах Зернааб'яднаньня і Цукратрэсту. Разам з тым, неабходна даць рашучы адпор апортуністычным хістаньням у пытаньні аб падтрыманьні саўгасаў.

Далей, як выконваецца пяцігодка па павялічэньні пасеўнай плошчы Плян 1932 г. даводзіць пасеўную плошчу да 141 млн. га, г. зн. поўнасьцю забясьпечвае выкананьне заданьня пяцігодкі за чатыры гады. Пры гэтым па збожжавых культурах заданьне пяцігодкі будзе ў 1931 г. некалькі недавыканана (95 проц.). Нягледзячы на гэта, збожжавая праблема, дзякуючы посьпехам калгаснага будаўніцтва, у асноўным ўжо вырашана ў нашай краіне. З другога-ж боку, ужо на 4-м годзе пяцігодкі заданьне па пасеўных плошчах тэхнічных культур будзе значна перавыканана (133 проц.), а гэта азначае, што ў сэнсе падвядзеньня сырцовай базы пад нашу прамысловасьць мы зробім значна большыя посьпехі ўжо ў 4-м годзе пяцігодкі, чым прадугледжвалася усім пяцігадовым плянам. Трэба дадаць да гэтага, што цяпер цэнтр цяжару нашай работы ляжыць не ў галіне пашырэньня пасеўнай плошчы, а ў барацьбе за ўраджай, у падняцьці ураджайнасьці, у арганізацыі ўборкі.

Калі збожжавая праблема намі ў асноўным вырашана, калі разам з тым, у адносінах тэхнічных культур мы ужо дабіліся вялізарнага зруху і з кожным годам прасоўваемся наперад ўсё хутчэй, дык значна адсталым вучасткам застаецца жывёла-гадоўчая гаспадарка. На задачах уздыму жывёлагадоўлі мы цяпер павінны сканцэнтраваць асаблівыя намаганьні. Паколькі гэта

цясьнейшым чынам зьвязана са стварэньнем моцнай кармовай базы, і паколькі нам неабходна далейшае паскарэньне ўздыму тэхнічных культур, пастолькі пытаньне аб павялічэньні збожжавай прадукцыі СССР застаецца актуальнейшым пытаньнем усёй нашай работы.

Больш таго, нападкаўшая нас у гэтым годзе засуха ў радзе буйнейшых сельска-гаспадарчых раёнаў, а іменна ў раёнах Сярэдняй і Ніжняй Волгі, Уралу, Казакстану і Заходняй Сібіры, напамінае нам і аб справе барацьбы з засухай. Калі 10 год таму назад, калі засуха прывяла да простага голаду мільёнаў сялян Поўдню і Ўсходу, мы яшчэ былі слабы для разгорнутай барацьбы з гэтым няшчасьцем, дык цяпер прыйшоў час па бальшавіцку паставіць гэту задачу ў парадак дня Савецкай улады. . . .

На 1932 г. намечана арганізацыя новых 1700 МТС, такім чынам да канца 4-га году ў нас будзе 3100 МТС... Вялізарная перавага машына-трактарных станцый, якія маюць моцную тэхнічную базу на мясцох і працуюць па адзіным пляне і пад агульным кіраўніцтвам свайго ўсесаюзнага цэнтру, шмат у чым ужо выявілася... Нарэшце добрыя рэзультаты даў вопыт стварэньня пры падтрыманьні дзяржавы малочна-таварных калгасных фэрм. Гэта справа патрабуе далейшага падтрыманьня і разам з тым яшчэ больш актыўных адносін саміх колгасаў. (Молатаў).

Мы ставім перад сабой задачу арганізаваць работу ўсіх партыйных, савецкіх, зямельных і іншых гаспадарчых арганізацый у справе далейшай колектывізацыі такім чынам, каб праз ажыцьцяўленьне генэральный задачы, арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў, дабіцца завяршэньня ў асноўным суцэльнай колектывізацыі БССР ў 1932/33 г. У гэтай галіне мы павінны кіравацца вядомай пастановай ЦК УсеКП(б)Б ад 2 жніўня 1931 г.

Выходзячы з гэтай дырэктывы, мы ў кантрольных лічбах запраектавалі, што ў сярэднім у БССР да канца 1932 г. будзе ахоплена колгасамі ня менш 65 проц. бядняцка-сярэдняцкіх гаспадарак. Па Саюзе прадугледжваецца колектывізацыя бядняцка-серадняцкіх гаспадарак у сярэднім у аб'ёме 72—75 проц. Агульны разьмер усей пасеўнай плошчы мы вызначаем у 4.150 тыс. га, што дасьць прырост у параўнаньні з 1931 г. на 16,5 проц., у тым ліку па сугасах прырост вызначаецца на 129,3 проц. Запраектавана давесьці колькасьць трактарных станцый па БССР да 97 з тым, каб трактарны парк павялічыць на 1932 г. да 167 тыс. конскіх сіл. З гэтага відаць, што ў нас будзе ня менш 1 МТС на раён, а ў некатарых раёнах і па 2 МТС.

Па жывёлагадоўлі мы праектуем давесьці лік коняй да 930 тыс. штук, прырост на 5 проц. Стада буйнай рагатай жывёлы трэба давесьці да 2.208 тыс.—рост ва 35,7 проц. Гэта задача вялікая, але мы павінны яе выканаць.

Па саўгасах колькасьць усей жывёлы павінна павялічыцца на 72 проц., у тым ліку кароў на—на 64,4 проц., у калгасных таварных фэрмах—на 45,5 проц., у тым ліку кароў—на 92,3 проц.

Па спажывецкай каапэрацыі неабходна павялічыць стада на 40 проц. у тым ліку кароў на 25 проц.

Праектуем давесьці стада сьвіней да 3.800 тыс. да канца году, або даць прырост на 39,7 проц.

Наша задача дабіцца—ў асноўным вырашэньня ў 1932 г. праблемы жывёлагадоўлі.

Вопыт 1931 г. паказаў, што мы яшчэ дрэнна спраўляемся з разьвіцьцем буйнай сьвінагадоўлі. Аказваецца, што сьвіньня вельмі інтэлігентная жывёла, якая любіць вельмі добры догляд за сабою, яна, аказваецца, ня любіць каб з ёю па сьвінскі абыходзіліся, а гэта мае месца ва многіх выпадках у нашых саўгасных і калгасных гаспадарках.

Практыка паказала, што там, дзе на чале саўгасаў і сьвінагадоўчай калгаснай фэрмы стаялі добрыя гаспадары, справа пасунулася шпаркімі тэмпамі наперад. Там-жа, дзе былі дрэнныя гаспадары, чыноўнікі, альбо такія людзі, якія ня ўмеюць і ня хочуць „далікатна“ абыходзіцца са сьвіньнёю, ёсьць цэлы рад прарываў. Вопыт буйных сьвінагадоўчых гаспадарак мы пачалі набываць толькі ў 1931 г. Гэты вопыт гаварыць, што буйныя сьвінагадоўчыя гаспадаркі патрабуюць асаблівай ўвагі, лепшай арганізатарскай работы. Трэба вывучыць гэту справу па сутнасьці залезьці, як гавораць, у глыбіню і не кіраваць „наогул“.

Іменна таму, што ў нас з падборам кадраў для сьвінагадоўчых саўгасаў і калгасных таварных фэрм справа стаяла дрэнна, у некатарых саўгасах і калгасных фэрмах адыход маладняка даходзіў нават да 40 проц.

Такім чынам вырашэньне задачы жывёлагадоўлі зьяўляецца цэнтральнай праблемай сельскай гаспадаркі. Першае, з чаго трэба пачынаць, гэта з падбору кадраў. Трэба знаходзіць лепшых людзей і сярод калгасьнікаў і сярод працоўных мас і ставіць іх на гэту справу. А ў нас ёсьць добрыя гаспадары калгасьнікі. Трэба іх сьмялей браць і вылучаць на кіраўніцтва цэлымі гаспадаркамі.

Трэба адначасова стварыць матэрыяльную зацікаўленасьць для тых людзей, якія даглядаюць жывёлу наогул і ў прыватнасьці сьвіней. Трэба перайсці на прэміяльна-зьдзельную сыстэму ў залежнасьці ад таго, наколькі сьвіньня дасьць прыбытак, каб вырашыць мясную праблему. А гэта ўсё залежыць ад догляду. Кожны з нас, пачынаючы ад старшыні Саўнаркому, Наркому і канчаючы рабочым, які даглядае сьвіньню, павінен ведаць справу разьвіцьця жывёлагадоўлі. Няправільна цурацца гэтых задач, бо гэта ёсьць сапраўдны бальшавіцкі подыход да канкрэтнага вырашэньня пастаўленай партыяй праблемы, а праблема разьвіцьця жывёлагадоўлі перад органамі БССР пастаўлена, як асабліва вялікая, і галоўным чынам, у галіне сьвінагадоўлі.

Ня спыняючыся спэцыяльна на задачах разьвіцьця іншых відаў жывелагадоўлі, я толькі падкрэсьлю, што нам трэба налегчы на разьвіцьцё іншай дробнай хутка-сьпелай жывёлы, як трусы,

птушкі і г. д. Гэта ў значнай меры і ў хуткім часе зябясьпечыць задачу мясаснабжэньня. (Галадзед).

## Транспарт у 4-м годзе пяцігодкі.

Некалькі адстае выкананьне пяцігодкі на транспарце. Тут за першыя тры гады пяцігодкі ёсьць недавыкананьне раду заданьняў. У мінулым годзе ўся партыя вяла барацьбу за зьнішчэньне выкрытых на транспарце буйнейшых недахопаў. Асабліва шмат недахопаў у арганізацыі працы—абязьлічка паравозаў і вагонаў, а таксама ўраўнілаўка ў заработнай плаце. Побач з гэтым неабходна значнае ўзмацненьне тэхнічнай базы і правядзеньне значных работ па рэканструкцыі нашага транспарту, асабліва чыгуначнга транспарту. У 1932 г. намячаецца значна шырэйшы размах рэканструкцыйных работ. Побач з увядзеньнем магутных паравозаў, якое пачынаецца ў гэтым годзе, вялікагрузных вагонаў, а таксама, электравозаў, цеплавозаў і аўтасцэпкі—вялікае значэньне для ўзьняцьця транспарту будзе мець правядзеньне тых, як часам гавораць „дробных“ работ, ад якіх залежыць неадкладнае палепшаньне работы чыгуначнага транспарту на радзе важнейшых вучасткаў... На чыгуначным транспарце работы канцэнтруюцца на разьвіцьці лініі Масква—Данбас,—выхадаў з Данбасу і лініі Масква—Магнітагорск—Кузьнецк. (Молатаў)

Па транспарце і сувязі вызначаны наступныя праэктаваньні. Укладаньні ў дарожнае будаўніцтва павялічваюцца на 19,4 проц. Завоз аўтамашын ў БССР праэктуецца ў 2.750 шт. Грузазварот па водным транспарце вызначаецца ў аб'ёме 1.160 тыс. тон—рост у 145,4 проц. (Галадзед).

## Становішча працоўных у СССР у 4-м г. пяцігодкі.

Для характарыстыкі становішча, якое паляпшаецца, і ўмоў жыцьця рабочых і служачых у СССР спынюся толькі на 3-х момантах: на заработнай плаце, сацыяльным страхаваньні і рабочым дні на прадпрыемствах. Па ўсіх гэтых паказальніках мы маем значнае перавыкананьне заданьняў пяцігодкі.

На апошні год пяцігодкі ўвесь фонд заработнай платы акрэсьліўся ў 15,7 млрд. рубл. Фактычна ўжо ў мінулым годзе гэты фонд дасягнуў 21,1 млрда. Плянам 1932 г. фонд заработнай платы ўзьнімаецца да 26,8 млрд. руб. Значыць, пяцігодка на фондзе заработнай платы выконваецца за 4 гады ў разьмеры 171 проц. Лічбы гавораць самі за сябе.

Бюджэт сацыяльнага страхаваньня на апошні год пяцігодкі намячаўся ў 1.950 млн руб. Фактычна ўжо ў мінулым годзе ён дасягнуў 2.500 млн руб., г. зн. мы ўжо на 3-м годзе пяцігодкі значна перавыканалі пяцігодку па сацыяльным страхаваньні. На наступны год бюджэт сацыяльнага страхаваньня дасягае 3.940 млн. руб., г. зн. 4-ы год пяцігодкі дае амаль падваеньне супроць апошняга году ў пяцігадовым пляне.

Пяцігадовым плянам прадугледжвалася правядзеньне 7-мі гадз. рабочага дня ў апошнім годзе пяцігодк. На справе мы ідзем значна шпарчэй намячэньняў пяцігодкі і ўжо на 4-м годзе пяцігодкі заканчваецца правядзеньне 7-мі гадзіннага рабочага дня ва ўсей прамысловасьці. (Молатаў)

Па тавараразвароце і снабжэньні мы даем значны размах. Раздробны тавараразварот у 1932 г. павялічваем на 42,2 проц.; пры чым асноўнае павялічэньне дробнага тавараразвароту пойдзе па лініі закрытых рабочых і ваенных каапэратываў (на 194,7 проц.).

Задача палепшаньня снабжэньня рабочае клясы ў 1932 г. застаецца галоўнейшай. Таму мы наддаем вялікую ўвагу разьвіцьцю савецкага гандлю, пашырэньню гандлёвай сеці і самазагатоўкам нізавых каапэрацыйных арганізацый. Мы павінны ў бліжэйшы час разгарнуць значную колькасьць савецкіх крам у рабочых паселішчах, у раённых цэнтрах, каб тым самым палепшыць справу снабжэньня. Трэба шляхам павялічэньня самазагатовак ЗРК, ЗВК, ТПО і іншых каапэрацыйных арганізацый дабіцца павялічэньня тавараразвароту за лік мабілізацыі мясцовых рэсурсаў. (Галадзед)

## Падрыхтоўка кадраў і задачы культурнай рэвалюцыі.

Наш размах у галіне падрыхтоўкі кадраў характарызуецца павялічэньнем капітальных укладаньняў у гэту галіну з 23,3 млн. рубл. у 1931 г. да 42,5 млн. рубл. на 1932 г. Справу падрыхтоўкі кадраў мы ставім, як адну з галоўных. Па падрыхтоўцы кваліфікаванай рабочай сілы таксама праэктуецца значны рост асыгнаваньняў. Мы мяркуем давесьці сетку фабзавучаў і аналёгічных школ да 234 адзінак, прырост на 312 проц., а колькасьць вучняў павялічыць на 73,6 проц. Пры чым у 1931 г. выпуск фабзавучаў вызначаем у 6.265 чал., з курсаў сярэдняй кваліфікацыі—26.697 чал., а праз масавыя курсы да 102.300 чал.

Па культурна-сацыяльных мерапрыемствах я абмяжоўваюся толькі агульнымі лічбамі. Галоўную задачу—увядзеньне ўсеагульнага абавязковага навучаньня на базе 4-х годкі мы ў асноўным вырашылі ў 1931 г. У 1932 г. мы павінны дабіцца далейшага паглыбленага вырашэньня гэтай задачы і напэўна павінны ўжо будзем паставіць задачу правядзеньня ўсеагульнага абавязковага навучаньня на базе сямігодкі.

У гэтым напрамку мы і праектуем адпаведныя мерапрыемствы па адкрыцьці 5-х груп, з мэтай ахопу скончыўшых пяцігодку ўжо ў гэтым годзе.

Лік вучняў у першым канцэнтры мы думаем давесьці да 695.800 чал. павялічэньне на 3,6 проц.; у другім канцэнтры да 186,181 чал. павялічэньне на 70,8. Вялікія мерапрыемствы праектуюцца і па лініі дашкольнага выхаваньня (сады, ачагі і г. д.) і арганізацыі пляцовак. У галіне палітасьветы, у прыватнасьці, мы думаем ўжо адкрыць 1406 сельскіх дамоў культуры—павялічыць іх колькасьць супроць 1931 г. на 213 проц. (Галадзед).

Што трэба рабіць, каб ажыцьцявіць задачы 1932 г., каб завяршыць пяцігодку за 4 гады.

Можна коратка адказаць на гэтае пытаньне—узьняць прадукцыйнасьць працы на нашых фабрыках і заводах, у капальнях і на чыгунках, у саўгасах і калгасах. Ленін многа раз указваў на тое, што прадукцыйнасьць працы ў канчатковым выніку вырашае пытаньне аб перамозе новага грамадзкага ладу. Аб гэтым у даны момант прыходзіцца асабліва напомніць з прычыны няспрыяючых у гэтых адносінах вынікаў мінулага году.

У 1931 г. прадукцыйнасьць працы у прамысловасьці ўзьнялася на 6,6 проц. А гэта зусім не выстарчальна і далёка адстае ад прынятай праграмы. У выніку ва многіх выпадках мы ня толькі ня маем устаноўленага зьніжэньня сабекошту, але маем наадварот, рост сабекошту ў вытворчасьці і ў будаўніцтве. З такім становішчам нельга мірыцца. У 1932 г. мы павінны разгарнуць па сапраўднаму барацьбу за ўзьняцьцё прадукцыйнасьці працы ў нашай прамысловасьці, у сельскай гаспадарцы і на транспарце. Тым больш, што намі ўсё робіцца для таго, каб не дапусьціць паўтарэньня фактаў мінулага году на транспарце; якія сарвалі ў значнай меры дасягненьні ў рабоце прамысловасьці. Усё гэта патрабуе разгорнутай барацьбы з радам буйнейшых нашых недахопаў у справе арганізацыі працы і кіраваньня.

У сувязі з гэтым трэба спыніцца на наступных асноўных задачах моманту:

а) пытаньне арганізацыі працы ў прамысловасьці, у саўгасах і на транспарце;

б) пытаньне арганізацыі працы у калгасах;

в) разгортваньне тавараабароту;

г) праваздзеньне гаспадарчага разрахунку і

д) праверка выкананьня.

а) Пытаньне арганізацыі працы. Гэтае пытаньне ў мінулым годзе ўжо было пастаўлена партыяй з ўсёй вострасьцю і сапраўды зьяўляецца асноўным пытаньнем работы нашых гаспадарчых органаў. Сюды адносіцца перш за ўсё барацьба з абязьлічкай у адносінах да машын і механізмаў, барацьба з ураўнілаўкай ў зарплаце, а таксама пераход ад самацёку да арганізаванага набору рабсілы...

б) Пытаньні арганізацыі працы ў калгасах павінны займаць асобнае месца.. На аснове вопыту мінулага году, калі калгасы ўжо дасягнулі абсалютную перавагу ў сельскай гаспадарцы, трэба праверыць, як ажыцьцяўляліся на практыцы указаньні VI-га зьезду Саветаў аб разьмеркаваняні даходаў ўзалежнасьці ад колькасьці і якасьці працы калгасьніка, і забясьпечыць ўзмацненьне матэрыяльнай зацікаўленасьці колгасьніка ў рэзультатах вытворчасьці і разам з тым умацаваньне колгасаў, як буйнай сацыялістычнай гаспадаркі. Але асноўны вывад і без таго ясны.

арганізацыі працы, або, інакш кажучы, без патрэбнага арганізацыйнага гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў, нельга забясьпечыць росту колгасаў, як сацыялістычных форм гаспадаркі і выкананьня пастаўленых перад імі задач па сканчэньні пяцігодкі за 4 гады...

Без разгортваньня дзяржаўна-каапэрацыйнага таваразвароту і без усямернага разьвіцьця савецкага гандлю пры патрэбным забесьпячэньні савецкай політыкі цэн, нельга належным чынам узняць справу снабжэньня, якая зьяўляецца адной з важнейшых прадпасылак выкананьня пастаўленых задач—і, перш за ўсё, задачы—пяцігодка за 4 гады.

г) Правядзеньне гаспадарчага разрахунку. У справе укараненьня гаспадарчага разрахунку за прайшоўшы год зроблен вялікі крок наперад. Паколькі ад правядзеньня гаспадарчага разрахунку ва многім залежыць рост нашых накапленьняў, і пакольку на многіх вучастках справа з гаспадарчым разрахункам стаіць яшчэ зусім нядобра, задача ўкараненьня гаспадарчага разрахунку стаіць перад намі з ўсей вострасьцю... Асаблівае значэньне набывае практыка дагаворных адносін.. Дагавары павінны заняць важнейшае месца ў нашай рабоце ў наступным годзе. Як вядома, нашы прынцыпы гаспадарчага разрахунку ні ў якай меры не супярэчаць плянавай арганізацыі гаспадаркі. Наадварот, наш гаспадарчы разрахунак знаходзіцца ў злучнасьці і больш таго у падпарадкаванасьці да прынятага народна-гаспадарчага пляну.

д) Нарэшце, аб праверцы выкананьня. Ленін надаваў у свой час вялізарнае значэньне справе палепшаньня дзяржапарату. З таго часу наш дзяржаўны апарат бязумоўна палепшыўся. У ім значна вырас кадр людзей адданых савецкай уладзе. Значна павялічылася і колькасьць камуністаў. Аднак, з прычыны вялізарнага росту нашага будаўніцтва адбываецца далейшае павялічэньне дзяржаўнага, і, асабліва гаспадарчага апарату, прычым у ім яшчэ ня рэдка адыгрываюць ня малую роль элемэнты, чужыя рабочай клясе, якія не зрасьліся па сапраўднаму з сацыялістычным будаўніцтвам. Таму ўказаньне Леніна аб задачах камуністаў у адносінах апарату павінны стаяць у разрадзе важнейшых задач бягучага моманту. Ленін у свой час гаварыў: „трэба каб яны, гэтыя камуністы, аўладалі ўсімі апаратамі, у якіх яны пастаўлены, а ня так, як у нас гэта часта робіцца, калі гэты апарат імі ўладае".

Тады-ж у 1922 г. Ленін указвае на наступнае: „правяраць людзей і правяраць фактычнае выкананьне справы у гэтым, яшчэ раз у гэтым, толькі ў гэтым гвозд усёй работы, не аднаго году, а справа некалькіх год". Так гаварыў Ленін 9 год таму назад. (Молатаў).

Павышэньне прадукцыйнасьці працы па прамысловасьці ВСНГ мы вызначаем на 26,9 проц., па прамысловасьці Наркамснабу—на 26 проц.

Зьніжэньне сабекошту ў прамысловасьці ВСНГ вызначаецца ў разьмеры 8,1 проц., па Наркамснабу—у 7 проц.

На якасных паказальніках (уздым прадукцыйнасьці працы і зьніжэньне сабекошту) я хачу спэцыяльна спыніцца для таго, каб зьвярнуць ўвагу сэсіі на гэтае пытаньне. Мы не ажыцьцявілі пляну выкананьня якасных паказальнікаў 1931 г. Напрыклад, было намечана ўзьняць прадукцыйнасьць працы па прамысловасьці ВСНГ на 33 проц., а ўзьнялі ўсяго на 22,1 проц. Зьніжэньне сабекошту па прамысловасьці ВСНГ мы намецілі на 9,2 проц., а зьнізілі, проста сорамна гаварыць, толькі на 1,7 проц. А зьніжэньне сабекошту па прамысловасьці Наркамснабу намецілі ў 8 проц., зьнізілі-ж толькі на 3 проц.

Запраэктаваныя якасныя паказальнікі па прамысловасьці на 1932 г. павінны быць выкананы абавязкова і безагаворачна. Якасьць работы прадпрыемстваў—гэта асноўная генэральная задача на 1932 г. Зьніжэньне сабекошту, уздым прадукцыйнасьці працы, палепшаньне прадукцыі, упарадкаваньне ўсей вытворчасьці —вялікая задача для ўсяго пляну на 1932 г. (Галадзед).

Ёсьць у нас „горе“-гаспадарнікі, якія не вядуць барацьбы за ўзмацненьне незалежнасьці Савецкага Саюзу ў галіне тэхнікі, якія ігнаруюць пастаноўку новых вытворстваў. Гэта адзін з горшых відаў апартунізму. Мы павінны ў гэтым годзе ў масавым маштабе арганізаваць новыя вытворствы і ўсямерна ўзмацняць незалежнасьць нашага Саюзу... Партыйнасьць кожнага камуніста, кожнай арганізацыі, яе кіраўнікоў будзе вызначацца, наколькі яны вядуць непрымірымую барацьбу за якасьць работы. („Праўда“ ад 26/XII 31 г.—перадавая).

СССР асабліва павінен лічыцца з небясьпекаю імпэрыялістычнага нападу. Нам добра вядома, што ў некаторых дыплёматычных габінэтах у даны момант самым актыўным чынам абгаварваецца пытаньне аб ваенным нападзе на наш Саюз. Нельга забываць аб тым, што многія арганізатары ранейшых ваенных інтэрвенцый супроць СССР яшчэ жывы і дзейнічаюць цяпер за адно з другімі, за адно з новымі прадстаўнікамі імпэрыялізму ў справе падрыхтоўкі нападу на рабочую рэспубліку.

У сувязі з падзеямі ў Манчжурыі выкрыта ў нашай і ў замежнай, у тым ліку, буржуазнай прэсе, ужо не адна провокацыйная спроба ўцягнуць СССР у вайну. Падпальшчыкі вайны з лягеру імпэрыялістаў патурбуюцца яшчэ ня раз аб правакацыі з мэтай ўцягненьня СССР ў вайну і арганізацыі ваеннага нападу на нашу дзяржаву. Мы павінны быць гатовы і надалей да гэтых правакацый. Мы адказваем на ўсё гэта пасьлядоўным правядзеньньем палітыкі міра. Мы адказваем на гэта павялічэньнем нашай пільнасьці. Мы адказваем на гэта ўзмацненьнем будаўніцтва і перш за ўсё тым, што змагаемся ўжо ў 1932 г. за сканчэньне пяцігодкі. У нашай краіне б'е ключом творчая работа, адбіваецца гіганцкае будаўніцтва, пераможна будуецца сацыялізм. У гэтым мы бачым умацаваньне ня толькі нашых унутраных, але і міжнародных

пазыцый. Пераможным ажыцьцяўленьнем народна-гаспадарчага пляну, скончэньнем пяцігодкі ў чатары гады, разгарнутай па ўсім фронце барацьбой за справу сацыялізму, адкажам нашым клясавым ворагам. Наша задача—умацаваньне справы ўсеагульнага міру і міжнароднага сацыялізму, забясьпечаньне перамогі рабочае клясы. (Молатаў).





---

Рэдкалегія: Клімаў (Адк. рэдактар), Улазаў, Гурвіч.

Друк. Кір. Спр. СНК. Галоўлітбел № 50. Зак. № 48—6000